# АЛЬТАНКА

Паэтычны альманах студэнцкага літаратурнага гуртка
філалагічнага факультэта БДУ

## Выпуск 1



Мінск , «Кнігазбор», 2011

УДК 883.2(082)
ББК 84(4Беи)я43
А58

Складальнік
І р ы н а   Б а г д а н о в і ч

Мастак
А к с а н а   Ю ч к а в і ч

**Альтанка** : паэтычны альманах студэнцкага літаратурнага
**А58** гуртка філалагічнага факультэта БДУ / склад. Ірына Багдановіч. — Вып. 1. — Мінск : Кнігазбор, 2011. — 100 с.

ISBN 978-985-7007-13-4.

У паэтычным альманаху «Альтанка» змешчаны вершы маладых беларускіх паэтаў — сяброў літаратурнага гуртка «Альтанка», што распачаў сваю творчую дзейнасць у 2008 г. на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта пад кіраўніцтвам дацэнта БДУ паэтэсы Ірыны Багдановіч. Гэта шчыра прамоўленае ад глыбіні душы і сэрца Слова пра наш час, пра вечныя каштоўнасці быцця, пра повязь пакаленняў і малады, імклівы лёт у нязведаныя далячыні будучыні.

**УДК 883.2(082)ББК**
**84(4Беи)я43**

**ISBN 978-985-7007-13-4**

# "Пагаворым у цішы альтанкі..."

Слова пра наш літаратурны гурток



тудэнцкі літаратурны гурток «Альтанка» творча дзейнічае на філалагічным факультэце ўжо трэці год. Ён быў утвораны ўвосень 2008 года і аб'яднаў маладыя паэтычныя таленты: на той час гэта былі студэнты другога курса аддзялення беларускай філалогіі БДУ Аксана Ючкавіч, Марыя Паўлоўская, Ірына Агеева, Вольга Сауленка, Настасся Буйко, Сяргей Хораў. Актыўна далучыўся да гуртка старшакурснік гістарычнага факультэта Алег Лойка, які нібыта пераняў у спадчыну не толькі імя і прозвішча, але і сам высокі паэтычны голас свайго славутага дзеда. Сталымі сябрамі гуртка сталі і на той час ужо выпускнікі факультэта — Ганна Серэхан, якая на сёння з'яўляецца вядомай паэткай і перакладчыцай, аўтарам дзвюх паэтычных кніг, ды Яўгенія Якубовіч, якая скончыла аддзяленне рамана-германскай філалогіі і выступае як беларускі бард. Наведваць гурток неўзабаве пачалі таксама студэнты Алесь Пруднікаў з гістарычнага факультэта і Сяргей Самахвал з аддзялення славянскай філалогіі філалагічнага факультэта. А зусім нядаўна, у сышоўшым навучальным годзе, «Альтанка» папоўнілася новымі прыгожымі паэтычнымі галасамі: да нас далучыліся другакурснік з аддзялення славянскай філалогіі Максім Баравік і першакурсніцы з рамана-германскай філалогіі Валерыя Пучыла і Ганна Кавалёва.

«Альтанка» — гэта месца сустрэч паэтычных талентаў. У «Альтанцы» царуе дух творчасці, сяброўства, падтрымкі і высокай пашаны да Слова. Тут жыва адчуваецца повязь з класікай — з традыцыямі Францыска Скарыны, Адама Міцкевіча, Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Уладзіміра Караткевіча. Мы вучымся ў іх шанаваць і любіць роднае слова, родную зямлю, праўду, справядлівасць, красу і свабоду творчага самавыяўлення. А таксама шукаем новыя, сугучныя сучаснасці, магчымасці паэтычнага слова. А яны могуць быць самыя розныя і нават самыя нечаканыя, як колішні, сто гадоў назад здзейснены, «прарыў» традыцыйнага паэтычнага слова футурыстамі…

Але нават футурызм — ужо мінуўшчына гісторыі сусветнай літаратуры. А творчы пошук, сугучны сучаснасці, працягваецца… І так,

як размаітаю з'яўляецца наша сучаснасць, так непадобныя да сябе мастацкія спробы пяра маладых паэтаў, што прыходзяць у літаратуру… Адсюль, як можа заўважыць чытач, розныя скіраванасці творчых пошукаў маладых аўтараў альманаха «Альтанка»: ад традыцыйных лірычна-класічных узораў, невычарпальных у сваёй сутнасці, да авангардна-эпатажных, эксцэнтрычных, якія заўжды былі разлічаны на выклік і «цвяленне» густаў. Усе яны вельмі своеасаблівыя, розны таксама іх стылёвы дыяпазон: ад насмешліва-іранічных да шчымліва-лірычных вершаў. У любым выпадку вершы першага выпуску альманаха «Альтанка» — гэта шчыра прамоўленае ад глыбіні душы і сэрца Слова пра наш час, пра вечныя каштоўнасці быцця, пра повязь пакаленняў і маладых, імклівы лёт у нязведаныя далячыні будучыні.

Чаму мы назвалі наш гурток «Альтанкаю»? Слова прыйшло неяк само сабой, у гаворках са студэнтамі, якія выхоўваюцца тут, на філалагічным факультэце БДУ, у глыбокай павазе да гісторыі айчыннай культуры. Хутчэй за ўсё, гэта перадалося ад Адама Міцкевіча: ад патрыятычнай, напоенай любасцю да айчыны яго творчасці і ў цэлым ад усёй дзейнасці філаматаў — гадаванцаў Віленскага ўніверсітэта. Такія, універсітэцкія, традыцыі маюць глыбокі ўніверсальны грунт. І сёння, на маю думку, гэта таксама сімвалічна і сугучна часу. Альтанка ў сядзібна-паркавым будаўніцтве беларускай мінуўшчыны заўжды была тым схавана-інтымным месцам, што прызначалася для сардэчных размоў і шчырых сяброўскіх сустрэч. І ў той жа час гэта была адкрытая з усіх бакоў пабудова, у якую свабодна залятаді вятры, над якой грукацелі маланкі, свяцілі зоркі і пяялі птушкі. Альтанка — гэта куточак радзімы, не запэцканы чужымі ботамі, дзе кожны можа пачувацца натуральна і нязмушана, быць самім сабой, гаварыць на мове птушыных гаёў Бацькаўшчыны і булькацення яе крыніц. Часам бывае няпроста знайсці такую альтанку ў засені векавечных старых дрэваў, якія бароняць яе ад староннях вачэй… Такімі былі шляхецкія сядзібныя альтанкі ў садах нашае Бацькаўшчыны. У падобнай альтанцы сустракаліся калісь, напэўна ж, Адам Міцкевіч з Марыляю Верашчакай, Ян Чачот з Зосяй Малеўскай, Кастусь Каліноўскі з чарнабровай сваёй Марыськай…

Нашы сённяшнія сустрэчы ў «Альтанцы» — гэта перадусім раскрыццё душы ў паэтычным слове:

Пагаворым у цішы альтанкі,
Ўдалечы ад гулкіх скрыжаванняў…
Вершы — гэта сэрцаў вышыванкі
Залатымі ніткамі кахання…

Сёння наш літаратурны гурток «Альтанка» па сваёй сутнасці і мэтах: шукаць, падтрымліваць і ствараць магчымасці для развіцця паэтычных талентаў — працягвае творчыя традыцыі «Узлёту» — папярэдняга літаратурнага аб'яднання маладых талентаў на філалагічным факультэце БДУ, якім кіраваў незабыўны Алег Антонавіч Лойка. Блізкія таксама для сяброў «Альтанкі» творчыя традыцыі беларускіх літаратурных аб'яднанняў 1920-х гадоў «Маладняка» і «Узвышша», у якіх спалучаліся маладая задзёрыстасць талентаў, эпатажны выклік застаяламу і спелае імкненне не пераадольваннем класікі, але яе творчым засваеннем ствараць новую літаратуру, змястоўную і глыбокую ў сваім сутнасным бачанні жыцця. Тым і цікавую не толькі ў сваім часе…

На літаратурныя панядзелкі ў «Альтанцы» можна прыйсці са сваімі вершамі, пачытаць іх, паслухаць парады і думкі сяброў-альтанкоўцаў. Тут можна таксама атрымаць прафесійныя кансультацыі па культуры творчасці, архітэктоніцы, вобразнасці паэтычных твораў, па ўдасканаленні і шліфоўцы радка. Лепшыя творы адбіраюцца для чытання і друку.

Удзельнікі літаратурнага гуртка «Альтанка» ахвотна выступаюць са сваімі вершамі, дзеляцца ўражаннямі і пачуццямі, што выліваюцца з душы ў шчырых паэтычных радках. Першая публічная прэзентацыя паэтычнай «Альтанкі» адбылася ў красавіку 2009 года падчас «Беларускай вечарыны – 2009», якую зладзіла кафедра гісторыі беларускай літаратуры на філалагічным факультэце БДУ. Ужо трэці раз «альтанкоўцы» з'яўляюцца ўдзельнікамі паэтычнага свята на радзіме Янкі Купалы ў Вязынцы, якое традыцыйнага ладзіць філалагічны факультэт. Сёлета выступоўцамі на гэтым свяце былі як сталыя ўдзельнікі гуртка Аксана Ючкавіч і Вольга Сауленка, так і тыя, хто далучыўся да яго нядаўна і выступаў тут упершыню: Максім Баравік, Валерыя Пучыла, Ганна Кавалёва. Паэтычныя галасы ўдзельнікаў «Альтанкі» гучалі таксама на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё і ў Мінскай гарадской бібліятэцы № 20 падчас літаратурнай вечарыны, прысвечанай 80-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча ў лістападзе 2010 года.

Застаецца дадаць, што многія вершы альманаха праілюстраваны Аксанай Ючкавіч — не толькі таленавітым паэтам, але і цікавым, са сваім бачаннем свету мастаком.

*Ірына Багдановіч*

## Прыйшла вясна!

Вясновае
Абвастрэнне.
Высновы ем,
Як варэнне.
Я — вычварэнне.
Я — вычварэнне?
Вясновае
Абвастрэнне.
І новае
Сутарэнне
Забытае
Часткі
Мозга
Запытвае
Ласкі
Боскай.



**Кіты**
выкідваюцца
**на бераг**.

Яны, такія вялікія,
не могуць
вытрымаць цяжару.

**А ты**
і так
на беразе.

І толькі
думкі
выкідваюцца
**на паперу**.

## Трэнас

*Віцы*

Прастагні свой апошні верш,
Каб аблегчыць крыху душу.
Я ж таксама зусім не пішу,
Я ж таксама плачу найперш.
Прастагні і забудзься сном.
Ён не лечыць — адцягвае боль.
Ну, а потым усім дазволь,
Каб дакладна пайшло на злом.
Тады ў багну выключнасць слоў
І да трасцы адметнасць форм.
Прапускаю другі святлафор
І іду. Іду на святло.



Мы дарогамі рознымі йдзём,
Штораз косім новыя пожні.
А ў Бога так многа дзён,
А мой кожны дзень як апошні.





Дакраніся да мяне шчакой
І адчуй мой сонны летні подых.
Ты хацела адшукаць спакой,
А сустрэла погляд дзён халодных.

Як апошні ліст календара
Цiснецца да зжоўклай спіны сценкі,
Тулішся да вока ліхтара,
Што губляе долу снегу вейкі.

Ён цябе не здолее сагрэць,
Растапіць сівую ў зрэнках шэрань.
Толькі памяць можа палымнець,
Калі ў цеплыню яе паверыць.

Мы палілі сэрцы, як маглі,
Вялі бойку з лютаю зімою.
Разам мы — святло й агонь зямлі,
Паасобку — робімся імглою…

Згас ліхтар, і ў маіх цёплых снах
Ты з’явілася ў марозных бліках,
І твая маленькая рука
Грэлася ў маёй руцэ вялікай.





Мне са шляху свайго не збочыць,
Бо не здолею потым вярнуцца.
Каб стагнаць, што не выспаўся ўночы,
Трэба зранку спачатку прачнуцца.

Сотні тысяч слядоў за плячыма,
Скрыжаванні дарог увішных…
Скалануць свет зусім немагчыма,
Калі ты ў гэтым свеце лішні.

Маё сэрца спакой здабудзе,
Хоць цяжэйшы стакроць за стому.
Каб сказаць, што цябе не любяць,
Трэ спярша палюбіць самому.



Ноч марознай яркаю гірляндаю
Сыпле на зямлю суквецці белыя.
Адлятае знічкаю каляднаю
Недаверу крыўда скамянелая.

Хай сягае у краі далёкія,
Як сягалі ў акіяны ветразі.
Сёння мы з табою адзінокія,
Каб спаткаць пачуцці дзесь наперадзе.

Сярод водараў ячменных верасня
Або ў ліпені, схаваным вербамі,
Мы з табой абавязкова стрэнемся,
Ды ў якім з паўшар'яў — немаведама.



Дайце волі гаючы глыток,
Не душыце яе дарэмна.
Вы пакіньце хоць неба шматок
Тым, каму гэта неба патрэбна.

Ўраз вадою з чужых крыніц
Гонар з твараў даўно пазмывалі
І на блікі чужых зараніц
Свайго сонца святло прамянялі.

Дый даносяцца там і тут
Перуноў адплатныя хвалі.
Не ўтаптаць майго неба ў бруд,
Як зямлю маю колісь ўтапталі.



Мне маўчанне тваё як параза,
Б'е балюча расталымі снежкамі,
Бы не пазнаючы адразу,
Размаўляеш са мною ўсмешкамі.

А я веру, што ты ўсё ўзважыш
І нарэшце зможаш адважыцца.
Тыя словы, што сёння не скажаш,
І праз тысячы год не даскажуцца.

 



Халоднага верасня прысмерк,
Затоенасць гмахаў высозных.
Бліскучая ясачка-пірсінг
У твару твайго нябёсах.

Маўчанне вачэй намоклых,
Смуга на тваіх каленях,
І скверу здранцвелыя кроквы,
І рук цеплыня ў кішэнях.

Мне помняцца крокі па бруку,
Трымценне на шыі хусціны
І жоўтага колеру куртка —
Пра сонечны дзень напамінак.

Мне вечнасцю стаў гэты вечар,
Ад злой адзіноты ратункам.
Тваё «да наступнай сустрэчы»
Й абдымкі замест пацалунка…

Калі ж сярод ночы імгненне
Хтось стукне ў дзверы нявінна,
Я буду ведаць напэўна —
Марына!..





Ты даруй мне ўчынкі бяздумныя,
Адпусці мне грахі ўсе.
Без цябе дні святочныя й будныя
Замятаюць снягі пакрысе.

Твае слёзы, шэпт вод калодзежных,
Прыхапіў на шчаках мароз,
І я ўспомніў хвіліну кожную,
Калі быў з табою наўпрост.

Ты ляпі маё сэрца па-новаму,
Расфарбоўвай яго, малюй…
Дык якімі пачаць мне словамі?
Можа, гэтымі: «Ты даруй»?..



Хуткім цягнікам, што пакінуў след —
На маёй шчацэ рэек-шпалаў пожні, —
Ты паехала ў той далёкі свет,
Куды і цягнік даляціць не кожны.

Мне застаўся снег, а твой сумны ўздых
Ад пляча адарваўся ды ймчыць у світанне.
Мы падобныя да сляпых і глухіх,
Што баяцца чуць і бачыць каханне.

Мой начны спакой за табою збег,
Я яго апрануў у твае адзенні.
Ты глядзіш на мяне як на талы снег
І, як пра мяне, пра снег летуценіш.



Хоць бачу начамі халодныя сны
І песні спыняю мінорным акордам,
Я вымалю ў Бога дзве кроплі вясны:
Уласнай душы і майму народу!..



Я табе пакланюся
Нізка-нізка...
Ты — мая спакуса,
Мая зараніца.
Ці кахаю? — Кахаю.
Гэта складана.
Ты мяне адчуваеш? —
Я старанны...
Так глядзіш навошта?
Мне прыемна.
Вочы — купал Каложы
Па-над Немнам.
Ты заўсёды плачаш.
Супакойся...
У высях зоры бачыш? —
Нябёсы...
Пасядзім можа
Пад вярбой ніцай?
Ты — мая Каложа
Ў залатых завушніцах.
Я ў палоне цудаў.
Мрояў пена.
Я чакаць цябе буду
Па-над Немнам...

 



Я начных стаў баяцца путаў,
Галасоў тых прывідных бясконцых.
То, вядома, не сэрца грукат —
Гэта крокі тваіх абаронцаў,

Што ідуць па палях крывавых
У даспехах, цяжкіх, бліскучых.
Неўміручая веліч славы!
Прызабытая памяць мінуўшчыны!



А ты спіш, і цябе ахінаюць
Не туманы, а сцені паэтаў.
Мяне зімы твае не пужаюць —
Я тваімі снягамі сагрэты.

І твой голас, пяшчотны, нязвыклы,
І твой твар пад колер палыну.
Нават гром мне здаецца малітвай,
Калі б'е ў нябёсах Айчыны!



Давай сёння сустрэнемся ўвечары,
Там, на месцы спатканняў колішніх.
Хочаш, я напяку табе печыва
З дзьмухаўцовым сочывам сонечным?

Твае вочы такія халодныя,
Засмучоныя, беззаганныя,
Як паўшар'і зямнога геёіда,
Па экватару разарванага.

Не марозь майго сэрца туманамі,
Не палі яго позіркам ветаха.
Ты мяне абдымі лепш, каханая,
Ахіні гэтай ночкаю летняю.

Пацалунак, табою народжаны,
Па ўсім целе цяплом расцякаецца.
Бачыш, наша каханне ўстрывожана
З прасціны небакраю ўсміхаецца?

Ты цалуй, не спыняйся, мілая,
За ўсе дні, што расстаннем азмрочаны.
Твае вусны, такія шчаслівыя,
Дзьмухаўцовым мне пахнуць сочывам.





Я выпраменьваю святло,
Гару лучынай ў цемры хаты.
Калі ўжо сонца узышло,
Яго не пасадзіць за краты,

Не астудзіць, не затушыць,
Не напужаць халодным рэхам.
Спрадвеку сонца зіхаціць
Й не згасне да скананне веку.

Я Сонца сын, Яго дзіця,
Лагоднай пешчанае ласкай.
Перада мной планета ўся
Дзівоснаю ўставала казкай.

Я ў небе роўны быў багам,
А тут... палання не хапіла...
Мне Бацька сілы не надаў,
Каб на зямлі я быў свяцілам.

Гару, пакуль не заліло
Дажджамі страчанай надзеі.
Я выпраменьваю цяпло,
Хоць у душы равуць завеі.



Зноўку дождж сінявокай жывіцай
Размаўляе з астылай зямлёй.
Калі з неба імжа церусіцца —
Значыць, хутка настане спакой.




Дождж спадае табе на вейкі,
Твайго твару пяшчоту п’е.
Дождж — дзівак неразумны нейкі:
Усё плача і слёзы лье,

Стогне з неба, штукар лісліви,
Ўсё галосіць ў змакрэлай журбе.
Я б у свеце быў самым шчаслівым,
Каб хоць кропляй кранаўся цябе,

Ахінаў лёгкай хмарай без краю
У грымотна-дажджынкавы спеў…
Мне твае валасы пахнуць маем
Пасля звонкіх, халодных залеў.

Не заб’е громам свет навальніца,
Не ўстрывожыць бязлітасна сон…
Калі сэрца тваё раздажджыцца,
Я аддам табе свой парасон.



Колькі можна няславіць паветра!
Колькі можна хавацца ў нябыце!
Як іголка ў стаговых нетрах,
Нібы колас ячменны ў жыце.

Нават неба каменная вусціш
Ўспыхне раптам і зробіцца пылам.
Чалавек сам не здолеў бы схлусіць,
Каб калісь яго не навучылі.

Нельга веяць няшчасце ад ліха:
Яны войскі аднога паходу.

Хтось пазнае свабоду па кнігах —
Хтось у кнігах апіша свабоду.

Я тапіўся ў хлуслівых крыніцах,
Я ў сабе іх вычэрпваў паволі,
І запахла мне воля пшаніцай,
Абмалочанай цэпам няволі.



Штосьці ў сэрцы вясны абярнулася,
Долу ймчыць і галосіць застуджана.
Усяму, што зямлі дакранулася,
Апынуцца ў зямлі гэтай суджана.

Захінуцца б смалістымі соснамі
Ў цішыні непарушнае грэшнасці.
Як не стане прадонне нябёсамі,
Так і мне не змяніцца да лепшага.

Можна йрвацца, змагацца і кідацца,
Ды аднолькава ўсё супакоіцца.
Калі ўвечары неба абрынецца,
Яно раніцай попелам зробіцца.



Пакуль маю
Бога,
Бацькоў
і
Айчыну,
Не згіну!..

## Настасся Буйко



Я шукала цябе днём у цемрадзі,
Я гукала цябе цішай у рэха,
Я плакала цябе грахом у споведзі,
Я галасіла цябе душой у неба.

А ты лётала ўначы на савіных крылах,
Пазяхала ў заспаных хвалях світанку,
Нежылася ў трапяткіх пегасавых пёрах,
Трапятала ў самаахвярнасці свечкі,
Таньчыла басанож па снезе…

Як табе не сорамна, *натхненне*?!



Не запаліць душы лампаду
Асеннім прысакам ліста.
Але мы падкі на прынаду:
Мы знячывелі без цяпла,
Мы скаланелі без святла
Ды слепа хутаемся ў сцюжу.
Асенні прысачак ліста
Трываліць ледзьве нашы душы.



Далонь душы працягнутую
за-тап-талі,
Надзею трапяткую — й тую
а-бар-валі,
Маіх пачуццяў юных перлы
рас-кі-далі,
Разбілі
Сэрца птушкаю аб шкло,
Зманілі.
Так я вучылася каханню.
А вы любілі?
...былі...
...білі...



Душы шчымлівае маленне
Ляцела з вышыні нябёс,
Яго на крылах вецер нёс,
Ды дождж лістом прыбіў у землю.

А мы, сляпыя фарысеі,
Лісты ўкрыжоўваем злюцела.
Мы суддзі, восені Пілат
Сваю руку абмыў у лужы.





Неда-спеў,
Неда-каз,
Неда-крык.
Рандэву ў цішы з пачуццямі.
Сам-насам,
Тэт-а-тэт,
Твар у твар.
Небяспечная блізкасць атручвае:
Думкаград,
Сэрцарэз,
Слёзапад —
Люстраванне душы балючае.

(Адзіноцкасць)



## Цыяген

— Ты — самы лепшы, ты — абраны,
І я падам табе усё:
Людская слава, бляск, тымпаны…
Прасі — і дам, бо я — Жыццё.

— Табой абраны? Абвянчаны
Даўно з драўлянаю дзяжой!
Адно: каб ты не засланяла
Мне сонца шчодраю рукой.

# Ганна Кавалёва



Зноў засталася сам-насам з сабою.
Лічу гадзіны да світання.
І гэты час стаў для мяне бядою.
Чакаю, чакаю рання.

Сонца, ратуй мяне сёння з палону,
Вартаўнік маіх мараў і дум.
І нясі мяне далей ад дому,
Хай мяне апануе сум.

Не трэба мне ведаць, што будзе далей.
А табе тым больш не трэба.
Дык няхай жа застануцца ў палыне
Боль, нянавісць ды агіда…



Я новая, не такая, як учора.
Я слухаю вецер, птушак,
Сёння дома, а заўтра — на мора
Ў адзенні з чырвоных стужак.

Кожны дзень змяняюся, і ўночы
Мяне не пазнаеш ніколі.
Толькі ўглядзіся у мае блакітныя вочы,
Спадзяюся, іх для цябе даволі…



Апошняе, што я табе пакіну,
Будзе вера мая…
Пастаю, пачакаю хвіліну,
І яна ўжо твая…

Мне гэта больш не патрэбна,
Забірай сабе назаўжды…
Ссохлася яна ўва мне бясследна,
Як апошняя кропля вады.



След пакінула я
Ля цябе…
Ускалыхнулась зямля
Для цябе…

Ногі збіваю, іду
Ля цябе…
Плачу наўзрыд, на бяду
Для цябе…

Зноў пахіснуся я
Для цябе…
Назаўжды застануся я
Ля цябе…



Бачу кожны дзень тваю ўсмешку,
Так значна жыць лягчэй.
Давай замолім па аднаму грашку
Ды пабяжым адсюль шпарчэй!!!
Учора вабіў мяне Мадрыд,
А сёння ўжо Берлін,
Абрыд мне зямны шар, абрыд,
Хоць уцякай у Рым…



Неба. Гэта маё неба.
З маімі зоркамі.
З маёй глебай.
Так, і ў неба
Бывае глеба.
Яна
Блакітная,
Як вада.

## Да 495-годдзя Аршанскай перамогі

Же сором утекати, бо маете ли гинути по лесах и дорогах, то ж лепше на пляцу лечи з несмеротною славою.

*Канстанцін Астрожскі, звяртаючыся да войска перад Аршанскаю бітвай*

Марша ўрачыстага грозныя гукі,
Трубы залівіста-велічна гралі,
Моцных даспехаў дрыжачыя грукі
Бою смяротнага час набліжалі.

Раптам страшэнная хвіля настала —
Громам магутным забілі гарматы,
Поле Дубровенскае задрыжала
Ад невыносна нясціхлых раскатаў.

Вораг бязлітасны цёмнага ўсходу
Зведаў адвагу літвінскага войска.
Княства Вялікага веліч, свабоду
Адваяваць здолеў гетман Астрожскі.

І праз вякі непахісна лунае
Памяці нашай духоўнай раскоша.
Да шанавання ізноў заклікае —
Слава табе, беларуская Орша!

## Крыніца багацця

Я помню — калісьці празрыстае ранне,
Калі яшчэ стылі халодныя росы,
Паклікалі вабна мяне на спатканне
Чароўныя светлым блакітам нябёсы.

Свой гуд мне данеслі зялёныя травы,
Што ладным абрусам зямлю агарнулі.
Пазвалі праменьчыкі сонейка жвава,
Якія наўколле лагодна кранулі.

І выбег тады я з вясковае хаты,
Каб шчасна дзівосам прыроды дзівіцца,
Галотны грашыма — душою багаты,
Бо веліч прыроды — багацця крыніца.

## Немінучасць

Як вясною зелень-траўка
Буйнай квеценню сваёй
Неадкладна стройна, шпарка
Атуляе свет красой,

Так і маладосці сіла,
Цвёрды, ярасны граніт,
Распраўляе горда крылы —
Нестрыманы бурны спрыт.

З маладосцю гуд надзеі
І крышталь нязгасных мар.
З ёй бясконца лашчыць-грэе
Светласць жыццятворных чар.

...Толькі як усё ж імкліва
Свой губляе зелень цвет.
Мо так сама мітусліва
Млее маладосці след...

## Угледаючыся да зор

Немінуча над горадам кроч,
Таямнічая, ціхая ноч.
Ды чаруючым россыпам зор
Запляці свой сярэбраны ўзор.

Цішынёю, спакоем крані
Кожны дом ды куточак зямны.
Хай загаснуць у момант агні —
Нагарэліся досыць яны.

Як дасціпны жыцця рэвізор,
Я пачну прыглядацца да зор.
Можа быць, што і з зоркі начной
Хтосьці сочыць таксама за мной.



## «Жоўты» разлад

Схавалася ясная вольная просінь,
Ды хмарнае неба глядзіць з вышыні, —
Прыйшла жаўтакрылая сумная восень…
Самотна на сэрцы — няма цеплыні.

Зусім анямела, ляжыць сабе долу
Пажоўклае лісце касой залатой,
Ціхмяныя дрэвы схіляе міжволі
Гарэзлівы вецер — свавольнік шчэ той!

І неяк больш шэра — загаслі праменні.
Дажджы шапаткія турбуюць часцей.
Гасцінец маўклівы глядзіць задуменна,
З журбой сустракае ён рэдкіх гасцей.

Куды ты схавалася, вольная просінь?
Куды збег твой ясны блакітны пагляд?
За вокнамі — сумная жоўтая восень,
Яна нарадзіла на сэрцы разлад.

## Рэха

Лясы, палі, азёры, рэкі…
Ці проста родная Айчына:
Над хатамі сівыя стрэхі,
Цвет кветак, зорныя сцяжыны.

Забыць ці пожню на світанні? —
Саспелага прывабнасць збожжа.
Мурогаў росных ажыванне —
Травы зялёнай погляд гожы.

Ці не народзіць мілаванне
Той маляўнічы луг духмяны,
Пявучых птушак гнездаванне
Ці колас залаты ціхмяны.

А непарушнай пушчы постаць —
Цэцерукоў ўладанне дзікіх,
Што нехлямяжа дрэвы брасняць,
Галосныя разносяць крыкі.

Айчыны звонкае то рэха,
Ніколі што не заціхае.
Лясы, палі, азёры, рэкі…
Той покліч вечна гучна грае.



## На Навагрудчыне

*Вольны эцюд*

Паміж пустэльных пераходаў-сцежак,
На вышыні Наваградскай гары,
Раскінуліся змрочна цені вежаў,
Бы прывіды мінулае пары.

Палёт амшалых баек ды былінаў
Даводзіць праз вякі пра дужы люд.
Ад успамінаў гэтых так млясліва
Цяпер, бо чутны іхні даўні гуд.

Багаты Край той надта быў. Крыніцы
Фантанамі жывой вады цяклі.
Быў Навагрудак велічны — сталіцай.
Старога Княства рыцары жылі.

Захоўваюць муры сярэднявечча,
Гісторыю Наваградскай зямлі,
Калі быў час шалёны, небяспечны:
На Чорную чужынцы Русь ішлі.

Трывалаю драўлянаю віцінай
Па Нёману, між хвалямі ракі,
Па-над цвіценнем гожым зяляніны
Паходамі хадзілі крыжакі.

Жалезны бляск ды жудасны даспехаў,
Народжаны мячом варожым гвалт
Гучыць цяпер таксама звонкім рэхам:
Ліхога часу ажывае кшталт.

Русін пакутваў ад бяды крыжацкай,
Слязой тужлівай плакаў Край наўзрыд,
Але тамтэйшы дух гарачы, брацкі
Імя, бы полымя, ўзрадзіў — Давыд.

Адважны, як той зубр, рашучы рыцар
Магутнаю, надзейнаю сцяной,
Раз'юшаным імгненным моцным віхрам
Гатовы даць няшчадны, люты бой.

Страшэнны ад жалеза грукат-лямант
Праносіўся няспынна па палях.
Давыда ваяры, ягоны талент
Стаялі непарушна, быццам гмах.

Спеў гучны неўміручай перамогі
Трымае у сабе стары данжон.
А час маўклівы ворага аблогі
Хавае змрочны, цёмны бастыён.



## Сэрца ные

Ізноў ные сэрца дрыготка, тужліва,
Скаваў ды знясіліў пранізлівы боль.
Сяджу я ў кавярні гаротна-маўклівы
І сумна ўглядаюся ў шэрую столь.

Гаворaць: «Нічога, звычайная справа,
Відаць, што каханне няшчырым было»...
Ў паветры лунае пах чорнае кавы,
Глухой адзіноты бянтэжыць сіло.

Я помню той першы з табой пацалунак
І як палымяна агойвала страсць.
У чым жа надзейны знайсці паратунак
Цяпер, каб удары адчаю стрымаць?

Не знікнуць, здаецца, ніколі ўспаміны,
Ніяк не спыніць іх пакутлівы ўзлёт:
Няўмольнае долі суровыя кпіны
Апутваюць сэрца ў каменны бы лёд.

Няма больш надзеі, згубілася вера,
І лёс чалавечы такі трапяткі...
А перада мной аркуш белай паперы,
Плывуць па якому жалобна радкі.



## Зімовы шпацыр

Зіма набірае разбег —
Пануе марозная сцюжа:
Густы узмяцелены снег
Над горадам казачна кружыць.

Сцюдзёны зімовы віхор
Бяжыць у нястрыманым руху;
Нябеснага срэбра узор
Зіхціць на завеяным бруку.

Зіма набрала свой узлёт —
На вуліцах сцюжа гуляе:
Сняжынак сівых карагод
Пейзаж гарадскі атуляе.

## Беларусі

Мне вольна тут, я тут не раб,
Радзімы Спадчына сівая —
Сапраўдны мой каштоўны скарб,
Што з даўніны званамі грае.

Імя тваё — нязгасны бляск,
Свячою што святарнай ззяе.
Пакуль яшчэ той кнот не згас,
Народ дыхання не губляе.

Як кветка ладная, так — ён,
Народжаны ад роднай нівы
Зямлёю, дзе трапеча лён,
Свайго цвіцення не прыпыне.

Там родны, сэрцу мілы дом,
Дзе гмахам высяцца палацы,
Дзе кожны шчыры свой паклон
Гатовы Спадчыне аддаці.

Дзе ціхавейна рэчка спіць,
Увысь глядзіць блакітнавока.
Дзе блешняй маладзік глядзіць,
Дазорца хмар начных высокіх.

Дзе шэпча на густых палях
Улетку песні колас міла,
Духмяных кветак вабіць пах,
Якія сонца урадзіла.

Зямля як весны дзіўны сад,
Табе свой спеў адно я зычу,
Пяшчотны твой жывы пагляд
Да вершаў гучных, вольных кліча.

## Не схавацца ў вечнасць

У гэтым жыцці, шумным і недарэчным,
Дзе мітусня апантана царыць,
Часу няма, каб падумаць аб вечным —
Мірна сам-насам з сабою пабыць.

Вось тэлевізар ізноўку бальбоча:
Там землятрус!
Там тэракт!
Там пажар!
Ну а газеты няспынна прарочаць:
Крызіс у свеце —
Слабее даляр!



Я адключу тэлевізар,
Адкіну
Стосік газет.
Ціха вочы замкну.
Свет мітуслівы, абрыдлы
Пакіну.
На ўсё забудуся —
Вечнасць крану.



Добра.
Лагодна.
На міг непасільны
Быццам бы знік цяжар горкіх згрызот.
...Толькі праз хвілю галосе мабільны —
Зноў заўладарыць свет будніх турбот.

## Матэрыяльны парадокс

*Іранічная замалёўка*

Сярмяга, кажуць, — не знявага,
Паверце, братцы-сваякі,
Духоўнасць мае перавагу —
Даносіцца нам праз вякі.

Замест прывабнае раскошы
Лепш кнігі мудрыя чытаць.
Хоць маеш толькі ты галошы,
Няма чаго ўсё ж смуткаваць.

Галоўнае — то, дружа, веды, —
Працягваю усё казаць. —
З вучонай добрай роспач-беды
Цябе не будуць турбаваць.

Калі табе не па кішэні
Той ланцужочак залаты,
То добра. Толькі ад мігрэні
Пазбавішся ты назаўжды.

Ой, брыдкі, ой, які нягожы
Той будзе, верце, чалавек,
Што толькі вечна лічыць грошы,
Свой доўгі «даляровы» век.

Я звыкся з думкамі такімі
На свеце белым існаваць.
Але не згодны хоць я з імі,
На што магу я паўплываць?

Хоць я і не хачу раскошы,
Аднак хацеў бы запытаць:
Дзе раздабыць такія грошы,
Каб змог я *кнігі* набываць?..





Блукаючы праспектамі шырокімі,
Ў мурашніку нясцерпнай мітусні людской,
Ўсё роўна застаемся адзінокімі,
Сам-насам застаемся мы заўжды з сабой.

## Зямля мая…

Прамень лунае з-пад нябёсаў,
Здалёк след птушак чарады,
Гучанне чую блізкіх росаў,
Свабодна мне, мне небяды.

Спакой буйных дубовых бораў,
Радзіма ціха, мірна спіць.
Блакіт чароўных пекных зораў
Ўрачыста з вышыні блішчыць.

А вецер грае шумнай хваляй,
Нясе шырокай грамадой
З лясоў здзічэлых ды з-пад гаю
Матывы блізкіх мне краёў.

Маўкліва ў далеч паглядаю,
Навокал тут краса зіхціць,
Айчыны подых адчуваю,
З ім сэрца вольнасцю гарыць.

## Лепш мовіць словам не варожым…

Не пакідайце ж мовы нашай
беларускай, каб не ўмёрлі!

*Францішак Багушэвіч*

Як гэта ладна, як прыгожа,
Калі бацькоўскім словам родным
Ударыш ты. Бо не варожым
Ты грукнуў словам, а народным.

Яно зальецца буйнай плынню
Ды заквітнее вабна цветам,
Жыццё абудзіць, не загіне,
Заграе звонка па-над светам…

Дык лепш напорліва пагрукнем
У браму лёсу словам гожым.
Хай будзе гучны гэты грук наш!
Лепш мовіць словам не варожым…

## Гараджаніну

Жыццё бурлівіць шчыльнымі вірамі,
Турбуюць клóпаты быцця, нястачы —
Вялікі горад з моцнымі мурамі
Няўклюдна сее новыя задачы…

Закон сучаснасці — суровы тэрмін,
Расклад гадзін пазначаны дакладна.
Жывеш, як быццам у тужлівай цемры,
У горадзе груваcткім, непрывабным.

Аднак за кальцавою рысай блізка
Чакае не дацерпіцца палёгка:

Блакітныя заззяюць ясна высі,
Крыніцы закрасуюцца, узгоркі.

Усмешкамі сустрэнуць ветла кветкі,
Заграюць вабнасцю рачныя хвалі,
І позірк кінуць росныя палеткі —
Плады зямлі адно цябе чакалі…

## Надзейны прытулак

Шчыпле нясцерпна-пранізліва шчокі,
І скамянелы ад холаду нос,
Шлях жа яшчэ несканчона далёкі,
А ўсё мацнее бянтэжыць мароз.

Між пасівелых заснежаных вулак
Ды па-над люстрам блакітнага льду
Я апантана шукаю прытулак,
Шпарка прыспешваю крокам хаду.

Маю на мэце ўтульнае месца,
Горад змяшчае яго пад зямлёй,
Дзе, зледзянелы, змагу я сагрэцца, —
Там вельмі цёпла сцюдзёнай парой.

Вось я схаваўся ад лютай прыроды:
Кроў закіпае, цяплее нутро…
Княства падземнага ў тым й асалода,
Дзякую мінскаму шчыра метро.

## Трыялет

Птушкі запяялі міла
Перад соннай, яснай хатай.
Я прачнуўся. Бо санаты
Птушкі запяялі міла.
Як той колас сонцу рады,
Добра й мне, калі гулліва
Птушкі запяялі міла
Перад соннай, яснай хатай.

## Кляновыя межы

У краі чароўным ля роднага дому
Блукаў падарожнік, не зведаўшы стомы.
Дзівосна-блакітным наўкол даляглядам
Прырода вітала лагодным паглядам.

Раскінулась возера чыстае вольна.
І качкі парадам ўрачыстым павольна
Кідалі там пляскамі водныя колы.
А промні ласкавыя вочы калолі.

Распалены вецер гуляў над зямлёю,
Лагоду прыносіў імклівай стралою.
Між дрэваў зялёных разносілі гоман
Пявучыя птушкі залівістым звонам.

Дыван травяністы сцяліўся прыгожы,
Прысеў адпачыць падарожнік-прахожы.
Дзівіўся палітраю вабнаю красак,
Пагода гарэла пяшчотнаю ласкай.

Заўважыў ён клён дзесь здалёк гутарлівы,
Ды ліст прыляцеў да яго мітусліва.
Зірнуў на абрысы ліста… — небыліца?
Акрэслены зграбна Радзімы граніцы.



## Голас маладой інтэлігенцыі

Лёс Беларусі — наша справа!
Яна ёсць ветлы, родны Дом.
Квітней жа ў промнях пекных славы!
Пранося стрымгалоў, бы гром.

Увысь, высока да нябёсаў,
Ляці, нязгаснае Імя.
Табе наканавана лёсам
Сваяцка-шчырая сям'я.

Нам Беларусь даруе згоду.
Ты — залатая, вечны Скарб.
Сыны адданага народу
Не прададуць, жыла Ты каб!

## У бітве за прыгажосць

*Жартаўлівы эцюд*

Фізкультураю займаюся:
Ско́каю ды адціскаюся.
Я раблю зарадку пільна,
Быць прывабным каб і сільным.

Форму зграбную жадаю
Ды гантэлі падымаю.
Атлетычную фігуру
Я бязлітасна муштрую.

Цяжкія практыкаванні
Кожным праменістым раннем
Я выконваю старанна,
Выглядаць каб беззаганна.

Трэба ўзмоцнена займацца!
З пузам хочу развітацца,
Быць падцягнутым, прыгожым,
Ладным, яркім, пекным, гожым.

Мабыць, дзень ужо я пяты
Ўсё займаюся багата.
Падаецца, досыць лоўка
Мне даюцца трэніроўкі.

Толькі вось чамусьці цела
Дзень на шосты затрымцела:
Ные кожная цягліца,
Боль у шыі, паясніцы.

І мінулага запалу
Зараз засталося мала…
Мо, і так я — бездакорны?..
Шар, сябры, таксама ж форма!

# Марыя Паўлоўская

## Адчуванні

Сон і боль
Неадметнай стыхіяй застануцца
Свет і шчасце
Паміж збітымі з толку людзьмі
Вера й каханне
Пра надзею думаць не трэба
Слёзы і горыч
Непасільная ноша спіне
Радасць і вернасць
Такога зусім не бывае
Чорнае й белае
Толькі тут нараджаецца ісціна.



## Шкло

Каля акна
Сабраўся звычайны народ:
Рабочы, бяздомны,
Студэнт спынілі свой ход.
З-пад шкла
Прабіўся прарочы свет.
Рознае бачанне
Адкрывае бяздонны мех.
Промень сонца
Праз раму наскрозь прайшоў.
Боль, мазалі…
Ўбачыў нехта кроў.
Стосы кніг, акуляры
З носа хочуць спадаць.
Смецце. Рукі
Нешта хочуць падняць…
Шкло як шкло…

## Заўвага

падаецца, што падае ліст
жоўты ліст на дрэве — знікае
апошнія дні дажывае ліст
вецер амаль што зрывае
ліст змагаецца з ветрам
ліст перамагае вецер
застаецца на дрэве ліст
насуперак усім вынікам
насуперак усім прагнозам
застаецца на дрэве ліст



## Трыялет

Здань ціха лётае пад небам Беларусі,
І слёзы горычы цякуць мацней.
Здаецца нам, што гэта дождж, хутчэй…
Здань ціха лётае пад небам Беларусі.

Ў людскія сэрцы глянуць мусіць —
Самотны твар, усмешка ўсё цішэй.
Здань ціха лётае пад небам Беларусі,
І слёзы горычы цякуць мацней.

## Актава

Зорак мілых зіхаценне
Прабуджае мора дум:
Як пражыць жыццё сумленна?
І чаму на сэрцы сум?
І чаму, калі мне дрэнна,
Чую спевы дзіўных струн?
Можа, гэта лёс мой горкі?
Не, прыгожыя тут зоркі!



Жыццё людское, наша доля,
Што пражыць, што перайсці,
Што перакінуць цераз поле,
А потым зноў яго знайсці.
Як горкі хлеб, як кпін блазноты —
Не перакрэсліць аніяк…
І застанецца подзвіг нечы

Бяздумным у тваіх вачах.
Жыццё людское — соль без сілы,
А можа, зноў цяпер інакш?
Такія доўгія хвіліны
Кароткіх думак — цяжкі шлях.

## Змяя

Вялікі ланцужок
З жывых арганічных
Рэштак —
Людзей,
Быццам змяя,
Перасоўвае квола
Часткі цела.
Хвост адарваўся
І закрычаў:
«Уступіце мне месца,
Цяжарнай».
Сярэдняя частка
Выйшла з-пад строю,
Змяя непрыгожаю
Стала.
«Пенсіянерка я… я
Маю права…»
Змяя каляровая
Знікае —
Масу другую ствараe.



Вялікі стары вакзал
Зала
Поўная сметніца
Лесвіца
Людзі чакаюць
Шукае
Хтосьці на станцыі
Білет
Каля залы чакання
Вакно
Раздалося адтуль:
«Дамо
Да Гародні, ласка
Калі»
«Непонятно, прошу
Повторить»
«Да Гародні, ласка
Калі»
З пары вачэй аднаго
Туга
Адбілася ў другіх
Пустата
Шкло
«…Да Гародні…» пачулася
Зноў
«…Прошу повторить»
«…К Гродно…»
«…Хорошего вам пути…»

## Музей

Музей. Таўкатня.
Далікатныя
Рукі.
Карціны. Твары.
Прыглушаны
Гукі.
Прычоскі. Сукенкі.
Сіроты-
Карціны.
Гальштукі. Люстра.
Проста
Мундзіры.
Мадонна. Жанчына.
Узор.
Захапленне.
Вочы. Дакор.
Гнеў.
Асуджэнне.
Мадонна. Карціна.
Аўтар.
Убогасць.
Людзі. Багацце.
Простасць.
Годнасць.
Мастацтва. Душы.
Беднасць.
Мундзіры.
Прызнанне. Грошы.
Талент.
Карціны.

## Перад святам

Сёння прад святам
Стаянне
У бліжэйшай царкве
Пакаянне
Сэрцы-камні трымцяць
Змілаванне
Падымаюцца вочы
Жаданне
Да нябёсаў святых
Ускрыжаванне
Голас нечы гучыць
Спадзяванне
Сэрцам, Божа, к Табе
Спавяданне
Кленчу іконаю прад
Датыканне
Вуснамі мокрымі зноў
Узніманне
Рук уверх. Слёз уніз
Хваляванне
Сэрцы-камні трымцяць
Спатыканне
Позірк гнеўны людзей
Заміранне
Позірк светлых ікон
Ратаванне

# У цягніку

Гук флейты. Вусны напятыя.
Мелодыя… такая знаёмая!!!
Яна сэрца рве.
Вочы раптам падымеш
І глянеш:
У лахманах чалавек,
Праз ягоныя вусны
Мелодыя…вусны напятыя!!!
«Наступны прыпынак…» — пачулася.
Мелодыя раптам знікае,
Як не напружвай вушы і сэрца —
Не чуеш. Схавалася.
«Наступны прыпынак…» — бы грукатам
Заглушыла ўсё, што здавалася
Ў сэрцы пакінуў… увесь скарб…

На пероне, дзе стаптана ботамі
Зямля, пачулася
Зноў мелодыя дзіўная…
Праз вакно ўбачыш,
Як лахманы развее ветрык.



## Партрэт

Перавязаныя гумоваю анучай
З мінулага стагоддзя акуляры.
Стары і зморшчаны нос —
Ён гаспадар той рарытэтнай рэчы.
Сівыя валасы, як танны макарон,
Звісаюць. Ім хочацца мыла.
Пустыя вочы, колер не пазнаеш,
Што хочуць — ужо вядома.
Рука ў мазалях, грызі... кішэнь:
Бутэльку дастае — шчаслівая!!
Вусны — кавалкі «ікс» — шамкаюць,
Блажэннай усмешкай цягнуцца.

«Чалавек — падобнасць Бога!» —
Сказаў сведка з секты,
раздаючы брашуры.

## Ігрок

Дзеці, якіх кінулі ў кругазварот
Бацькі,
Ціснуцца паўз рады цягніка
Вельмі смела,
Умела...
Глядзяць у вочы табе —
Адчуваеш папрок.
О, як добра, што ты каля вакна
Сядзіш.
Можна заплюшчыць вочы,
Маўчаць,
І трымаць

У кішэні грошы…
Быццам ігрок.

## Трыялет

Хлеб горкі, з аднаго палыну,
Кладуць на стол.
Здаецца, і не трэба соль:
Хлеб горкі, з аднаго палыну.

Я бачу беднасць гэту й стыну,
Нібы усё пажэрла моль:
Хлеб горкі, з аднаго палыну,
Кладуць на стол.



Цэлы дзень ласкавы дождж спявае,
Дакранаецца лісця бяроз.
І шуміць, гэтым шумам адкрывае
Усю прыгажосць зялёных кос.
Здаюцца сумнымі твае нямыя слёзы,
Што павісаюць пацеркамі на лістах,
А можа, гэта думак цяжкі россып?
А можа, гэта нечы шлях?
Упадзе кропля і зліецца з морам,
Што пад вакном маім усё зіхаціць.
І потым мне раскажа пра раздолле
І па нябёсах трэба як хадзіць.



Невымоўе на чысты ліст
шкрэбае
вяззю
лёс.
Бясконцасць.



так
я спыталася ў панны
з абраза:
«я, напэўна,
вельмі дрэнная…»
яна сказала: «так,
ты горшая».
я паверыла ёй
а яна пасміхнулася:
«кайся» і з Яе
вачэй паліліся
слёзы
Я спытала:
«Навошта?»
Яна не адказала.
На вуліцы
Я ўкленчыла перад
Небам
І спытала:
«Дзе Ісціна?»
Яно прашаптала каласамі жыта:
«У табе..»



і прайшло Ўчора
і настала Сёння
але нічога не змянілася
акрамя
некалькіх
літараў
і яшчэ пульс
стаў чамусьці нямым
а канцэпцыя «звыш»
стала «пад»
і прайшло Сёння
і настала Заўтра
але нічога зноў
не змянілася



Напаўпустыя душы,
як
напаўпустыя вагоны,
маюць занятыя
месцы
для іншых.









я
РА-
С-с-
ПУ-у-
СКА-а-
ЮСЯ-я-я
ў
ЛУ-
ЖЫ-ы-
НЕ-е-е-е-
як
Е-е-
ЛА-а-а-
ЧКА-а-а-а-
я





Бывае, проста скажаш слова,
Яно ж, ці хочаш ты, ці не,
Адразу крыўдай стаць гатова,
Нясе бяду табе і мне.

І цяжка потым ад знявагі
Да даравання перайсці,
Ўсё зразумець пасля развагі,
У неба крыўду адпусціць.

Часцей за ўсё мы выгляд робім,
Што ўсё такое ж, як раней.
А крыўда, як яе не зловім,
З'есць і цябе, затым — мяне.



Ты бачыла неба? Не бачыла? Глянь.
Самотай напоўнена, быццам бы здань.
Схаваліся зоры. Гэй, месяц, ты дзе?
Навошта аблічча схаваў ад людзей?

Начэй такіх светлых раней не страчаў,
Таму да нябёс углядацца пачаў.
Што маюць сказаць мне сягоння яны?
А можа, ўсё гэта — чароўныя сны?..



Ты дзесьці тут… а я нідзе…
Сачу, як дыхае паветра,
Як рвуцца слёзы з цесных нетраў
Насуперак маёй бядзе,
Што да палёгкі прывядзе.
А ты сядзіш у колькіх метрах,
Гартаеш кніжкі нейкіх мэтраў,
Пакуль зусім не абрыдзе…

 

# Валерыя Пучыла

## Адзінокі птах

*Адаму Міцкевічу*

Душа мая, як адзінокі птах, блукае,
Ад мяне ў родны край неўзабаве ўлятае.

Прыпасці да чыстай крыніцы,
Вятрамі, дажджамі прыкрыцца,
Духмянай травою напіцца,
Каб песні радзімы маглі мне прысніцца.

Ляці, мая душа, анёлам
Туды, дзе блакітнае неба з касцёлам,
Дзе Свіцязь іграе і Нёман шуміць,
Каханне маё мне у вочы глядзіць.





У горадзе яшчэ вясновае цяпло
Не абудзіла сонных дрэваў.
Ані лісточка ім не прынясло,
Не чутна і птушыных спеваў.

За горадам, ў палях, лясах
Ёй болей дадзена ў правах.
Галінкі там празрыста ззяюць,
Маленькім лісцем прарастаюць.
Рыхтуецца зямля ў маўчанні
Да велічнага расцвітання.

Ўрачыста залаціцца ўся прырода.
Так прачынаецца зямля бліскучай
раніцаю года.





## Родная мова

Матчына мова — ў паданнях, у казках, у снах.
Ў ёй кожнае слова трымае
Сваю асаблівасць, свой колер і пах,
Сваёй чысцінёю натхняе.

І слоў ручаі аб'ядноюцца ў рэкі
І далей зліваюцца ў мора —
Каб родная мова гучала спрадвеку
Да веку, у шчасці і ў горы.



## Чаканне вясны

*Трыпціх*

### ЛЮТЫ

Не хапае мне яснага сонца,
Не стае веснавога блакіту.
Дождж са снегам вітае бясконца,
Кожны дзень паўстае самавіта.

У аўтобус пусты уваходжу без спешкі,
Раптам вусны кранае усмешка —
Хтосьці з надзеяй пісаў на халодным акне,
Мабыць, звяртаўся ён да мяне:
«Трымайцеся» і «Скора лета».
Чаканнем вясны увесь месяц апеты.

І здаюцца праблiскі агнёў сінімі пралескамі,
Расцвіўшымі у шкле замерзлымі фрэскамі.

### САКАВІК

Скрозь хмары сонца ужо ззяе,
Марудны дождджык снег з'ядае.
І хоць ляцяць яшчэ сняжынкі
На пачарнелыя сцяжынкі,
Але ўжо лезуць дзе-нідзе травінкі.

На вярбе коцікі буяюць,
Паслухаць — дык яны спяваюць…
А маладыя лісцяняты,
Як жартаўлівыя шчаняты,
Абселі голыя галінкі.
Так і пагладзіў бы іх спінкі.

Рыхтуецца сустрэць світанак года
Ўся навакольная прырода.

## КРАСАВІК

Паветра робіцца празрыстым,
А лес навокал нават залацістым.

І цішыня, што слышна, як расце ліства.
Не ведаю другога такога хараства.

Усё замерла. У нявесціным убранні
Зіма з зімою прагне развітання.

Набухлі свечкі бэзу, цюльпанаў карагод
Закруціць. І як не было турбот.

Як матылёчкі, з коканаў на хвойках
Раскрыліся замілавальныя іголкі.

Дзіўны гэты час, зваротны,
Да жыцця ад смерці паваротны.

З ім да асноў спяшаешся, пачаткаў,
У памяць продкаў, у будучыню нашчадкаў.

З ім нібыта і сам становішся вясеннім —
Яскравым з дзяцінства праменнем.

## Гарадскі дождж

Дождж прыйшоў да нас здалёк.
Ціха на зямлю, стаміўшыся, прылёг.
Распластаўся пад мокрымі шынамі,
Па асфальце расцёкся лужынамі.

Дзень пагаснуў. І з неба зігзагамі,
Усклікальнымі рознымі знакамі
Бліскавіца ўрачыста змяіцца.
Дзесь высока над дахамі,
Гаваркімі ў нябёсах размахамі
Тут і гром пасняшае з'явіцца.

І тады ўжо кроплямі жвавымі,
Адзначаючы бег свой актавамі,
Зямлю з небам яднаючы
Ды адно аднаго абганяючы,
Як машынкаю швейнаю, нешта сшывае,
Толькі сабою ўсё скрозь запаўняе, —

Шалёны лівень у вакне загрукаціць,
Аб чымсьці новым нібы хоча абвясціць.
Як быццам наўздагон благаславіць —
Жывой вадой святою акрапіць.



## Цішыня

У клопаце, бясконцай мітусні
Праводзім без таго кароткі час,
А сэрца даўно просіць цішыні.
Ці слухалі ў жыцці яе хоць раз?

Як ціха з ложка сонейка ўстае,
Ласкава аглядае ўсю зямлю,
І промнямі сваімі саграе
Зярняткі, што пакладзены ў раллю.

Як васілёк у жытніх каласах
Пялёсткамі вітае ціха нас,
А мы, не раз бываючы ў палях,
Ні разу не далі яму адказ.

Як на апалым восеньскім лісце
Кропля вады нячутна зіхаціць,
А побач павуцінне на кусце
Спакойненька шавеліцца, трымціць.

І як сняжынка падае на дол,
Узорам хоча моўчкі нас здзівіць,
Ды толькі, з працы ідучы дамоў,
Мы ботам пасяпяшым яе скрышыць…

У клопаце, бясконцай мітусні
Праводзім без таго кароткі час.
Не бачым, як з блакітнай вышыні
Маўкліва зоркі дакараюць нас.

## Родная мова

Мова беларуская,
У сэрцы твае словы,
Няма ў ім ані рускай,
Ні іншай якой мовы.

Сумуе маё сэрца,
Цябе паслухаць хоча,
Як ля кастра пагрэцца
Халоднай, цёмнай ноччу.

Я веру, спадзяюся,
Падказвае мне сэрца,
Што, мова Беларусі,
Ты зможаш разгарэцца.

І будзе ў кожнай хаце
Гучаць твой спеў вясновы.
Аб гэтым мару сваце,
Святая мая мова!

## Роднае слова

Дарагое, роднае, святое,
Слова беларускае маё!
Ты, як тое сонца залатое,
Льеш сваё адвечнае святло.

Гучнае, праўдзівае, людское,
Слова беларускае маё!
Ты наскрозь пранізана любоўю,
Поўнасцю прасякнута дабром.

Цёплае, гаючае, зямное,
Слова беларускае маё!
Поўніш ты пяшчотай і спакоем,
Сэрца саграеш маё цяплом.

Звонкае, чароўнае, жывое,
Слова беларускае маё!
Цябе люблю ўсёй сваёй душою,
Табе аддаены на ўсё жыццё.

## Беларусік

Паехаў летам я адпачываць
У піянерскі лагер недалёка.
Там да мяне ўсе сталі прыставаць.
— Скажи, а что такое «гузік», «вока»?

Мне вельмі смешна стала — да таго,
Што я аж проста покатам кладуся.
— Скажы, — пытаўся ў аднаго, —
Адкуль ты родны? — Как? Я с Беларуси.

— А словы, дружа, кажаш ты чые?
— Я говорю слова все русские.
— Ну вось, а я табе кажу свае,
Бліжэй мне словы беларускія.

Не ў стане былі хлопцы зразумець,
Што «пуговица» ёсць той самы гузік,
Бо рускія яны, што ж тут хацець.
А мне казалі ўсе: «Ты Беларусік».

Калі па шчырасці душы сказаць,
На хлопцаў тых нікольі не злуюся.

Не стану праўды нават я хаваць:
Наадварот, я гэтым ганаруся…

Гадоў з тых пор мінула больш за пяць,
Пра Беларусіка паспелі ўжо забыцца,
Але, што БЕЛАРУСЫ мы —
не варта забываць,
Мы гэтым можам толькі ганарыцца!



Давайце, людзі, сябраваць,
Дабро дарыць, вачэй усмешку,
Дабра не трэба шкадаваць,
Шукаць дзе-небудзь на узмежку.

Дарыце шчырасць і цяпло —
І ў сэрцах нашых светла стане.
Тварыць паўсюль адно дабро —
Вось наша будзе хай прызванне.

Каб ў сэрцы крыўды не было
І злосці месца не знайшлося,
Каб ветрам іх куды змяло,
Буран каб іх куды пазносіў.

І заблішчыць тады прамень
Праз непрасвет нястач і гора,
І гарэць стане нам штодзень
Зялёны колер святлафора.



Прабачце, людзі, і даруй мне, Бог,
Пішу не для таго, каб спавядацца.
Ў жыцці ўзышоў я толькі на парог,
І дзверы будуць толькі расчыняцца.

Губляўся я у выбары дарог,
Ад мноства іх я ледзь не вар'яцею.
Прабачце, людзі, і даруй мне, Бог,
Калі занадта шмат чаго хацеў я.

Я не прашу, каб хто мне дапамог,
З жыццём прывык даўно ўжо сам змагацца,
Прабачце, людзі, і даруй мне, Бог,
Што не заўсёды мог ва ўсім стрымацца.

Хапіла пройгрышаў і перамог,
Ці толькі ад мяне яны залежаць?
Прабачце, людзі, і даруй мне, Бог,
Што не усё рабіў, як мне належыць.

Не кветка я, але і не быльнёг
І вырасці хачу не самасеем…
Дзякуй вам, людзі, слава табе, Бог,
Што цепліце ўва мне яшчэ надзею…



Я гатоў узбірацца на высокія горы,
Па пустынях гарачых сасмяглым хадзіць,
Кіламетры праплыць у хвалюючым моры…
Для чаго усё гэта?
— Проста каб жыць!..



І зноўку новы дзень крануў мяне за плечы:
— Сярожа, уставай.
Ляжаць так недарэчы.

Зірні хутчэй у акно — там светлая надзея
На радасць і святло,
І бурныя падзеі.

Табе я ўжо нясу самотнае чаканне…
— Куды так уставаць
Мне ў такое ранне?

— Табе я прынясу нядобрыя навіны…
— Дазволь, я паляжу
Да восьмай палавіны.

— Ты сёння будзеш ліць салёныя слязінкі…
— Ну, дай ты паляжаць
Хаця б яшчэ гадзінку.

— Я сёння прынясу салодкае спатканне…
— Што ж ты раней маўчаў,
Тамiў мяне чаканнем?

Ужо я устаю, адзенне апранаю,
Напэўна, ўжо даўно
Яна мяне чакае…

І ціха новы дзень абняў мяне за плечы:
— Сярожа, не спяшы…
Апошняя сустрэча…

## Максіму Багдановічу

Ціха ў рукі кнігу ўзяў перад сном я,
Удумліва, ціха, спакойна чытаў,
Некалі і ты з такім жа спакоем
Ціха ў рукі кнігу ўзяў.

Свет у душы праліла кніга тая,
Пэўны настрой твайму сэрцу дала,
Мне ж твой «Вянок», твая кніжка малая
Свет у душы праліла.

Кожны радок у сабе нешта тоіць,
Тое, што толькі вядома табе,
Гучна крычыць ці прыглушана моліць
Кожны радок у сабе.

Зорку шукаю і я, што стаіла
Сіняе неба, а можа, зямля,
Згублены сам на паветраных крылах
Зорку шукаю і я.

Перада мною стаіць светлы вобраз,
Праўда, самотны… Ён мог яшчэ жыць.
Так у вачах недаспелы твой колас
Перада мною стаіць…



## Сябру

*Прысвячаецца Максу*

Прабач, калі не словы…
Прабач, што толькі позірк…
Але яго даволі,
Каб вымавіць адказ.

Святога неба справы
Ляцяць заўсёды ў вечнасць…
А ты ляціш у вырай,
Ляціш за небакрай.

Спыніся на хвілінку!
Падумай аб жыцці…
Дзе ты шукаеш шчасця?
Куды табе ісці?

Мо збочыў ты са шляху,
Ці мо не той хадой
Ідзеш па свеце новым
За новаю зямлёй.

А зорка у зеніце…
А зорка ў вышыні…
Дык падымі свой позірк
У святай цішыні…



Мінае дзень, наступіць новы…
Фарбуе чырвань небасхіл.
Я прамаўляю веры словы.
Я зноўку я, поўная сіл.

І хочацца спяваць пра сонца,
Глядзець увысь, удалячынь…
Расчынена маё ваконца —
Распраўлю крылы — ў неба сінь.

Лячу… На небе ні хмурынкі…
А старажытныя муры
Мяне натхняюць на учынкі,
Што валадараць у віры.

А дзе шукаць свайго збавення?
Ужо не трэба мне адказ.
Тваё святое ўваскрасенне
І для мяне — на гэты раз!..

## Зазірні

Зазірні ў мае ты вочы —
Што пачуеш у адказ?
Ці святая перамога,
Ці яшчэ адна з параз?

Не нянавісць там, не скруха…
Не цікаўнасць і не боль…
Не жаданне… спачуванне…
І не цукар… І не соль…




І не цемра летняй ночы,
І не свет, і не адчай…
Зазірні ў мае ты вочы! —
І не пекла там, не рай…

А шукаць адказ прыйдзецца,
Можа, толькі сярод сноў.
Бо цябе няма са мною.
Не з табою я — ізноў…

## Ганна Серэхан



Букет сустрэчы ў руках трымаю —
Букет пачуццяў, усмешак, слоў,
Але не тая духмень, не тая,
Плыве з пялёсткаў, сухіх лісткоў.

Даўно мы гэткія любім кветкі,
І ўсцяж я мару іх Вам дарыць.
Чаму ж ссыхае букет наш рэдкі?
Чаму ўжо барвамі не гарыць?

Не восень стала віной звядання,
Не прахалодны яе спакой.
Напэўна, проста не ў час спатканне,
І проста наш звечарэў настрой.

Але я цешуся ў момант гэткі,
Знайшоўшы ў ім і красу, і пах,
Што сёння любыя нашы кветкі
Мы песцім зноў у сваіх руках.



## Ave Maria

Ave Maria…
Бяздонне пяшчоты.
Звонку скрыгоча вар’яцкі матыў.
Ну і няхай…
Тут мелодыя цноты…
Хтосьці бязмежжа абдоймаў раскрыў…

Хтосьці суцешна, няголасна кліча
Не зашчапляцца ў кайданы нуды,
Скінуць з душы недавер, ваяўнічасць,
Шчыра прызнацца: «Люблю. Сапраўды».



Пакутлівае доўгае маўчанне…
Чаканне… І штохвілі — парыванне
На новае, адчайнае вар’яцтва,
Што зноў асудзіць сэрца на туляцтва.

Няўжо? Такі гаючы падарунак…
Слоў Вашых неспадзеўны паратунак…



Калі б ведаў, якое прадонне
Разгарнула знянацку жыццё…
Калі б ведаў, як доўга сутонне
Будзе ў цуглях трымаць пачуццё, —
То жахнуўся б, адрокся, сарваўся
І раструшчыў бы сам на друзкі

Усё тое, на што спадзяваўся…
Калі б ведаў пра келіх такі…
Але не… Па глытку, па хвіліне
Будзе лёс выдзяляць гаркаты.
Ды ўсё роўна душа не астыне,
Колькі б яду не выжлукціў ты,
Бо пакуль запівацьмеш надзеяй
Кожны даўкі, атрутны глыток,
Будуць сілы для мрояў і дзеяў
І парыў на яшчэ адзін крок.





Калісьці ты з’явішся…
Незразуметы,
шуканы ўжо колькі гадоў між чужых…
І кімсьці таксама дасюль не сагрэты…
Пакінуты —
так, як і я, на мяжы
адчаю, забітай надзеі, згрызотаў…
Мацнейшы за ўсю безнадзейнасць маю,

ты не пашкадуеш мужчынскай пяшчоты…
І я наша сэрца з табой загаю…

Ты ветласцю ўяўнай любоў не адпрэчыш,
а прыйдзеш упэўнена сам, дарагі…
І прагна ў бясконцасць працягнеш сустрэчу,
дазволіш пакінуць чуцця берагі.

Я шчыра цяпер за цябе памалюся,
я стану пакорнай і зноў трапяткой…
А потым здзіўлюся…
Спадзеўна здзіўлюся,
што мне не балюча быць побач з табой.





Я намалюю сонцу бровы,
Вочы, вушы, рот,
Сотні рук, што йдуць па коле
Й столькі ж соцень ног!

## Босы вечар

*Абразок з дзяцінства*

Босае дзяцінства,
Босае жыццё,
Вецер абдымае ўсё,
Босае дзяўчо-дзіцё!

Дождж уночы,
Шэпт прарочы,
І малюнак — збройнае біццё —
Ўсё займае шчэ дзіцё-дзяўчо…

Босы ранак,
Босы ранак
І халодная, што лёд, трава.
Бабчын ганак,
Бабчын ганак
І на ім малая —
Гэта я…

Босы вечар,
Босы вечар,
Дыхае пясок цяплом.
— Добры вечар,
Добры вечар, —
Кажа вёскі хата,
Кажа кожны дом…

Босы дотык,
Босы дотык
Да падлогі ў хаце вымытой.
Босы тупат,

Босы грукат,
Спаць іду, гарэза.
— Сон, за мной!

## І больш за ўсё

І больш за ўсё,
Што ў свеце кошту і не мае,
Нясу жыццё маё,
Агнём яно палае.

Згараю — полымя дрыжыць,
Што больш магу?
Адказ Хрыста — любіць…

## Вільні

Пад небам чыстым блакітным
Раскрыю крылы свае.
Над краем Вільні выбітным
Слова душа нясе.

Ўздымаю да яснага сонца
Далоні над гэтай зямлёй,
Маёй і тваёй бясконца,
Хоць рэдка ступаем па ёй.

А побач віецца Вільня,
Спадае яна ў Віллю.
— Так я ўпадаю, Вільня,
У сэрца тваё і душу!

Бягу па ўзгорку на вежу.
Па бруку, па камянях.
І радасць не ведае межаў.
Ды часам агортвае страх.

Не можам адчуць душою,
Мяжа раз'яднала нас
З сэрцам — Вільняй святою.
А сэрца баліць якраз.

Вільня, ў журбе абдымаю,
Святая мая зямля.
Цябе, як дзіця, называю —
Мама, матуля мая…

## Што дрэва

Жыццё маё — што дрэва.
Жыццё маё — што крыж,
Кранае яно неба,
Імкне яго увыш.

Жыццё маё — што дрэва,
Жыццё маё — што крыж,
Карэнне цягне глеба
Зямлі, якую сніш…



Усякі чалавек шукае сэнсу,
што лічыць схаваным у Богу.

Усякага чалавека шукае Бог,
што сэнс схаваў у чалавеку.

Таму, каб знайсці сэнс жыцця,
Знайдзіце адзін аднаго,
на калені стаўшы перад Богам.

## к адвеку тое было…

І падымаецца,
можа,
з руінаў,
што забытае доўга было.
І падымаецца,
можа,
не згіне
больш,
што хворым часта жыло.
І падымаешся,
можа,
родны,
мой народ, што люблю,
і падымешся
Богам
галодны,
абудзіўшы душу сваю.
І падымаецца,
можа,
моцай

мова сэрца, душы святло.
Напачатку паўстане Слова,
як адвеку тое было!

## І адчуваць смак жыцця…

На дварэ снежань.
А я іду ў сад і збіраю яблыкі.
Падмерзлыя.
Ты кажаш:
— Позна збіраць ураджай!
А я кажу:
— Люблю падмерзлы іх смак.
І мне не позна і не рана.
Усё мае свой час…
І любая дзея мае сэнс і можа прынесці шчасце…
Бо Бог стварыў, каб былі шчаслівыя і збіралі плады, і плады давалі…
І адчувалі смак яблыкаў, салодкіх, кіслых, спелых, пераспелых, горкіх, райскіх, грэшных, адамавых, ад апошніх смак застаецца на ўсё жыццё… калі не піць з Асвячальнай крыніцы…
І адчуваць смак жыцця…

## Штандар яго сэрца

Хлешча дождж
па твары тваім,
І прамокла да ніткі адзенне,
Хлешча з моцай,
а рыцар адзін
Дасягае ўсходу прамення.
І віецца над ім штандар —
Сімвал чыстае веры-прагнення:
Асвятліць Беларускі храм,
Ды крывёю амые ступенне
Усіх храмаў, завулкі і праспекты,
Не скарыўшыся перад злом,
На харугве ж убачым сэрца,
Што, як дождж ачышчае,
але толькі — агнём…

## Малітва

Ціха-ціха
Запаліш святло,
Ціха-ціха
запалка шуршне,
І паволі святла цяпло
Забягае да нас у душы.
І віецца язык агню,
Ў вышыні душу нашу будзіць,
І імкнецца наша душа
Аж пакінуць нашыя грудзі.
Ціха-ціха
Душа пяе,
Яе голас відаць на вуснах,

Для святла яна проста жыве,
І агонь яе з Богам лучыць.
Ціха-ціха, душа, ўзлятай
З кожным днём ты бліжэй да неба,
Калі з іншымі душамі рай
На зямлі ты ствараеш, як трэба.

Ціха-ціха
Гарыць святло,
Ціха-ціха
Яно дагарае,
А душа, што малое дзіцё,
На далонях Хрыста засынае…

## У дворыку БДУ

Сярод дрэў вышыні,
Сярод ценю сцен,
Дзе не толькі студэнтаў носіць,
Ціха моўчкі стаяць яны
І маўклівасцю праўды просяць.
Тое праўды, таго святла,
Што сцвярджалі сваім жыццём,
Што на вуснах і пёрах іхніх жыла.
А цяпер у маўклівасці зор.
І прыходзіць начы паўзмрок,
І студэнтаў нішто не носіць…
А яны сярод дрэў святлом,
Праўдай з неба Радзіму росяць…



Якая ёсць,
Такою буду,
Стаю, а дождж у твар ліе.
Маланкі бліснулі ў вышынях,
І хмары, хмары ля мяне.
Стаю, глытаю слёзы, мары
І запіваю дажджынамі,
Словамі, думкамі, рукамі,
Сціскаю голаў, што баліць,
Калі я думаю і бачу,
Як свет пакутуе з таго,
Што рэдка Божую задачу
Нясе у свет, марнее ўсё,
Прашу тады я лівень, градзін,
Прашу, амыў каб нас усіх
Ад трусасці, ілжывых гадзін,
Што ціснуць грудзі, цісьнуць дых.
Прашу тады я халадэчы
І ветру моцнага прашу,
Хай наваколле нават енчыць!
Абудзіць што яшчэ душу?!

## З цыкла «Ад ластаўкі»

### ЧАСАМ МЫ ВЯРТАЕМСЯ НАЗАД…

І вяртаюся, як ластаўка,
Да таго месца, дзе першы раз
Знайшла галінку, якая так запала
ў птушынае сэрцайка, што
разам з ёй захацелася
ўзляцець у вышыню.
Вяртаюся, каб зноў яе знайсці…
З сінімі кветкамі на чорнай зямлі,
З зялёнымі лісткамі на карычнева-шэрай галінцы…
Шукаю…
Як ластаўка, вяртаюся да таго
месца, дзе першы раз знайшла…
Вяртаюся…
І вяртаюся зноў у цяперашнасць…



## ПАРАЛЕЛЬ…

Крыло абдымала неба,
Кранулася потым вады,
Кранулася хаты страхі,
Галоўкі дзіцяці
І зноў неба…
Душа абдымала неба,
Кранулася потым зямлі,
Кранулася іншых людзей,
Галоўкі дзіцяці
І зноў неба…
Значыць, Бога…
Як натуральна ластаўцы ў небе быць,
Так натуральна быць душы ў Бога.

## ПРА ЛАСТАЎКУ, ВЕРАБ’Я І ЛІШНЯЕ

Ластаўка прывітала вераб’я,
Паляцела на працу.
Верабей прывітаў ластаўку
І застаўся дома.
Ластаўка прарэзала неба крылом,
І неба стала падзелена.
Лішні падзел. І трэба будзе зрабіць лішняе шво.
Нічога лішняга.
Гэта верабей хіба лішні, бо застаўся дома.
Бо не прарэзаў блакіт.
Бо не ўчынак лішні, а безучыннасць.
Бо чым больш швоў мы зробім,
Тым мацнейшым палатно жыцця будзе…

## КАХАЮЦЬ ПА-РОЗНАМУ…

Дураслівы!
слівы прынёс!
А позняя восень?
Прынёс кошык: поўны-поўны!
А што ж мне з імі зрабіць?
Дураслівая!
Гэта ж трэба над чым задумацца!

## ДЫМНАЕ

Сонца дзіўна,
парадаксальна
засвяціла ў хмарны дзень.
Я ўбачыла яго позірк
праз дым,
што абвіваўся гаркатою
ў горле, але той дым
любіла з дзяцінства,
бо прыгадваў дзядулю і тату,
а яшчэ тых рыбакоў,
што цягалі мяне
ў сваіх чаўнах,
калі выплывалі
лавіць шчупакоў і ракаў
двайніком.
І ніколі не было сярод іх двайнікоў,
бо твары не хавалі,
сябе не хавалі,
бо не было патрэбы,
бо не жадалі ані славы, ані ўвагі,
яны проста жылі як маглі, як умелі.
І рабілі мяне такой шчаслівай,

калі садзілі з сабою
ў човен і выплывалі на сярэдзіну…
Тыя рыбакі былі для мяне што апосталы,
якія лавілі няшмат, але не спыняліся,
якія любілі холад, мокрасць і сівер,
бо проста любілі жыццё,
бо без любові жыць немагчыма.

## РАКА

Сцябае чарот па вачах,
Набрала ў боты лядэчы,
Іду — адчуваю страх:
Штось раптам — няма парэнчы!

Балота вакол ды рака,
наперадзе два чалавекі.
І раптам — думка адна:
Адзін аднаму мы парэнчы…

## Край задумлівых альтанак

*Балада-ўспамін*

Прымроілася раз сярод начы
З дзяцінства паўзабытага ундзіна…
О, як жа закарцела уцячы
У мой любімы край хоць на хвіліну!

«Ад грузных стрэсаў, ліпкае слаты,
Ад сквапнай, ненажэрнай бытавухі
Мо возьмеш і мяне з сабою ты?
Ундзіна, забяры — ратуй ад скрухі!»

Лагодная, руку мне працягнула,
З душы будзённасці садзьмула слой,
Паветра з цёплых згадак удыхнула —
І ў рамантычнасць акунула з галавой.

…Мне зноў дванаццаць год. Мне па калена хвалі.
Над месяцовай сцежкаю дубы лятуць…
Наіўнаму дзяўчаці дзівосаў абяцалі —
Пільную свіцязянак: а раптам усплывуць?

Як у баладзе той, знячэўны вецер узняўся
І Свіцязь стала лашчыцца да змерзлых ног.
Там, за каменнем, — жах! — хтось белы калыхаўся —
Я кінулася прэч, бо сполах перамог.

«Ундзіна, што табе я кепскага зрабіла?
Не кліч, я не хачу, як ты, русалкай стаць!»
Я ў пырсках захлыналася і возера маліла
Сваім тужлівым паннам мяне не аддаваць.

Назаўтра я да берага ізноўку прыбягаю
І, дрыжучы, вады кранаюся рукой.
А Свіцязь баязліўку ўсцешана вітае,
Люляючы яе ў нябёснасці такой!..

Край закаханых зданяў, задумлівых альтанак,
Відзежная правінцыя дзяцінства і юнацтва,
Элегія з туману, дубоў і свіцязянак —
Суцэльная паэзія, кут Божага мастацтва!

У гэтым мілым мройве крыху б даўжэй застацца
І наглытацца роднасці тутэйшай і спакою…
Ды раніцой прыйшлося з той «настальжы»
расстацца,
Атуленай Міцкевічавай ласкай і маёю.



# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

# АЛЬТАНКА

Паэтычны альманах студэнцкага
літаратурнага гуртка
філалагічнага факультэта БДУ

Выпуск 1

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Ірына Багдановіч*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Валянціна Андрэева*

Падпісана да друку 18.07.2011. Фармат 84х108 $^{1}/_{32}$.
Друк на рызографе. Папера афсетная.
Ул.-выд. арк. 2,82. Ум. друк. арк. 5,25.
Наклад 160 асобнікаў. Зак.534 .

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.